


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

20 красавіка 2001 года
№ 16 (313)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Гран-пры маліноўшчынскай гарэлкі

МАЛАДЗЕЧНА. З выстаўкі БелЭКСПА ў Мінску ўсе 5 найменняў алкагольнай прадукцыі СП ААТ "Маліноўшчынскі спіртзавод Крышталь-2" вярнуліся з прызамі.

Сярод гарэлачнай прадукцыі Гран-пры атрымала "Аквадзіў Арыгінал", сярэбраныя медалі – у "Аквадзіў Прэстыж" і "Норд-Ост". Сярод вінаў лікёрнае віно "Прэм'ера" выйграла "золата". "Бронза" – у "Начной феі".

Юрый КАРПІЦКІ.

### Вуліца Міру багатая на снарады

МЯДЗЕЛ. Чарговы снарад знойдзены ў раёне. Адбылося гэта ў вёсцы Занарач па вуліцы Міру, калі да дома, што будуецца, вялі водаправод. Давялося выклікаць сапёраў з-пад Мінска.

Гаспадар участка **Сяргей Смаленскі** летась знаходзіў ужо снарад, калі капалі падмурак пад гэты ж дом. Усяго за 2000 год на Мядзельшчыне знайшлі 18 снарадаў і дзве авіябомбы.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Шалёныя жывёлы на Астравеччыне

АСТРАВЕЦ. Павялічылася колькасць людзей, якія пацярпелі ад шалёных жывёл.

Кіраўнік раённага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Ганна Пашук** канстатуе, што за квартал па дапамогу звярнуліся 8 чалавек. Зарэгістраваны 1 выпадак шаленства лісы.

Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.

### Аб'яднанне калгасаў

МЯДЗЕЛ. На адну гаспадарку меней стала ў раёне – аб'ядналіся два невялікія суседнія калгасы. У выніку злучэння «17 Верасня» і «1 Мая» атрымалася «Дружба».

Ніводзін з двух калгасаў моцным не называў. А «1 Мая», нагул, амаль па ўсіх паказчыках быў у ліку адстаючых. Кіраваць «Дружбай» будзе **Леанід Бернякові**ч.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Палякі рыхтуюцца да юбілею

АСТРАВЕЦ. У пачатку траўня споўніцца дзесяць год з дня заснавання раённага аддзялення ГА "Саюз палякаў Беларусі". Святкаванне пройдзе 5 траўня ў раённым ДК. Кіраўніцтва аддзялення разаслала прадпрымальнікам і кіраўнікам арганізацый лісты з просьбай аказаць дапамогу ў правядзенні імпрэзы.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

### Новы начальнік упраўлення

ВАЛОЖЫН. Новым начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкома прызначаны **Іван Маркевіч**. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў Шчучынскім раёне. Аграном. Апошняе месца работы – старшыня калгаса імя Суворава.

Былы начальнік упраўлення **Зігмунт Лужынскі** звольнены згодна з рашэннем Мінаблвыканкома. Сярод прычын – адсутнасць кантролю за ходам зімоўкі ў гаспадарках раёна.

Юрый КАРПІЦКІ.

## Аб пераносе рабочых дзён

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, перанесены рабочы дзень з **панядзелка, 23 красавіка, на суботу, 21 красавіка**; з **панядзелка, 30 красавіка, на суботу, 28 красавіка**.

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 21 красавіка

**Мінск**
5 – 7°C (уначы)
11 – 17°C (удзень)



**Вільня**
7°C (уначы)
9°C (удзень)



Нядзеля, 22 красавіка

**Мінск**
5 – 7°C (уначы)
14 – 19°C (удзень)



**Вільня**
4°C (уначы)
14°C (удзень)



# Двайная плата

**МАЛАДЗЕЧНА. Па выхадных у гарадскіх аўтобусах пасажыры плацяць удвая больш, чым па буднях. Увядзенне хуткасных маршрутаў абумоўлена цяжкім фінансавым становішчам аўтобуснага парка №4.**

Запазычанасць аўтапарка перад нафтабазай за паліва вагаецца каля 40-50 мільёнаў рублёў. Штодня рухавікі аўтобусаў спальваюць у горадзе па 2 мільёны рублёў.

"Хуткасныя маршруты" у Маладзечне ўвялі на падставе распараджэння гарвыканкома ад 19 сакавіка. Яно, у сваю чаргу, абапіраецца на пастанову міністэрства транспарту і камунікацый ад 25.10.2000 г.

Згодна з правіламі пасажыраперавозак, хуткасным лічыцца маршрут, які мае хаця б на 1 прыпынак менш, чым рэгулярны.

Але на адмененых прыпынках камусьці таксама трэба было выходзіць. Пасажыры пачалі абурацца. Тады вадзіцелям дазволілі, "у мэтах зручнасці пасажыраў", спыняцца на няўлічаных прыпынках па патрабаванні.

Вось і атрымліваецца, што фармальна маршруты з'яўляюцца хуткаснымі, а на справе – самыя звычайныя. Толькі ў 2 разы даражэйшыя.



Маладзечна, гарадскі аўтобус. Звыклая карціна: білецік не жадаеце набыць? Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

І гэта зроблена законна, лічыць адміністрацыя аўтапарку. Бюджэт не дапаможа, а прадпрыемства, усё ж, павінна быць вольнае ў вызначэнні цэнаў на сваю прадукцыю ці паслугі. Вось толькі манаполія ў аўтапарка на пасажырскія перавозкі. Акрамя таксі.

Найменшыя страты панясуць тыя, хто купіць праязны білет. Праязны гарантуе, што з вас не будуць браць дадатковую плату.

Юрый КАРПІЦКІ,
Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.

Экспрэс-апытанне ашмянцаў

## Што для вас «Адна зямля»?



**Іна Вяржынская, студэнтка Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта культуры:**

– Для мяне гэта тое месца, дзе жыву я, і суседнія раёны. Калі дакладна, то гэта наш "Бермудскі трохкутнік": Смаргоншчына, Ашмяншчына і Астравеччына.



**Аляксандр Каранеўскі, гісторык і краязнаўца:**

– Не будзе ў нас адной зямлі. З аднаго боку NATO, з другога – Расія. Кітай таксама супраць NATO. У бліжэйшы час не будзе адзінай групоўкі. А Беларусі, на маю думку, трэба рухацца на Усход.



**Пётр Явідовіч, грамадскі дзеяч:**

– Адна зямля для нас, беларусаў, – гэта Беларусь. Для мяне канкрэтна – гэта Ашмяншчына, месца, дзе я нарадзіўся, дзе жыву, дзе адбыўся як асоба.



**Аляксандр Тамашэўскі, ІІ курс сельскагаспадарчага тэхнікума:**

– Словазлучэнне нічога не гаворыць. Пра фестываль з такой назвай толькі ад вас пачуў. Можа, і схаджу на яго, калі будзе час. Бо канец чэрвеня – гэта пара экзаменаў.

Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.










Беларуская служба Радыё Свабода

| ЧАС | kHz | ХВАЛІ |
|---|---|---|
| 6:00 - 7:00 | 6065, | 49 |
| | 7295 | 41 |
| | 9650 | 31 |
| 18:00 - 19:30 | 7295, | 41 |
| | 9610 | 31 |
| | 11725 | 25 |
| 22:00- 23:30 | 9530,9750 | 31 |
| | 11865 | 25 |

Сярэднія хвалі — 612 і 1188 кГц

**НАСТРОЙЦЕСЯ НА «СВАБОДУ»!**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# 1922 год, Маладзечна, «Паўлінка»

Невялічкае мястэчка, якім тады было Маладзечна, пачынала загойваць пасляваенныя і паслярэвалюцыйныя раны. Лепшым адхланнем для местачкоўцаў быў тэатр. Кіно яшчэ было "віленскай штучкай для паноў", кнігі за часы ліхалецця развучыліся чытаць, а "Паўлінка", з яе настальгічнымі ноткамі, пазнавальнымі тыпамі – Купала ж пісаў п'есу з нашых землякоў – апавядала пра яшчэ не такое далёкае мінулае, вабіла і захапляла.

Дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі **Пётр Мятла** нарадзіўся ў 1890 годзе на Дзісеншчыне. Настаўнічаў, быў членам Беларускага пасольскага клуба ў Сейме Польшчы. Арыштаваны. У 1930 годзе ў выніку абмену вязнямі Польчы і Саветаў трапіў у СССР. Рэпрэсіраваны. Памер у лагеры ў 1936 годзе.

**Мікола ГАЙДУК.**



Фота з фонду Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.

**Удзельнікі пастаноўкі купалаўскай "Паўлінкі" у Маладзечне ў 1922 годзе. Першы справа Пётр Мятла, другі справа ў другім радзе Андрэй Рыгоравіч Капуцкі. Кіраваў пастаноўкай Пётр Мятла, ролю Паўлінкі выконвала Ж.Шунько– другая справа. 3-я справа – П.Крук (роля Альжбеты).**

■ ПАМЯЦЬ

## Вязні шталага №342 маюць права на кампенсацыю

**МІНСК. На прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным прэс-цэнтры старшыня праўлення фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне» Валянцін Герасімаў заявіў, што шэраг былых нацысцкіх канцлагераў, што размяшчаліся ў Беларусі ў гады другой сусветнай вайны, аднесеныя да груп «А» і «А1».**

Да гэтых катэгорый міжнароднай класіфікацыі канцлагераў адносяцца найбольш вядомыя «фабрыкі смерці», што існавалі на тэрыторыі акупаванай фашыстамі Еўропы ў 1939–1945 гадах. Сярод 16 канцлагераў, аднесеных да групы «А1», – канцлагер «Маладзечна» – шталаг № 342.

Паводле слоў Герасімава, былыя вязні паднявольнай працы гэтага лагера маюць права на выплаты па адпаведных нормах кампенсацый з боку Германіі.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

## Віцебскія удавы

**АСТРАВЕЦ. Экзотыка ў выглядзе змей, яшчарак, хамелеонаў, жаб, кракадзілаў і іншых жывёл наведала райцэнтр на мінулым тыдні.**

Чатыры дні аматары вострых пачуццяў маглі ўзяць у рукі гэтых жывёл, сфатаграфавацца на пару з пітонам ці кракадзілам. Але за дадатковую плату. Проста прагляд экзатычных жывёл абышоўся дарослым у 800 рублёў, а дзецям – у 600.

Дэманстраваў экзотыку прыватны гадавальнік з Віцебска.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

## Дыпламаты цікавяцца Будславам

**МЯДЗЕЛ. Нягледзячы на дрэннае надвор'е, касцёл у Будславе на Вялікдзень быў поўны вернікаў. Людзей сабралася болей, чым на Каляды.**

Спадабаліся велікодныя дэкарацыі. Яны яшчэ застануцца на нейкі час у храме. Цікавяцца Будславам і дыпламаты: на святую імшу у Вербную нядзелю прыязджаў консул Італіі ў Беларусі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Міні-пральня з Ірландыі

ВАЛОЖЫН. У спальным корпусе мясцовай школы-інтэрната ў бліжэйшы час пачне працаваць міні-пральня.

Дзве пральныя машыны і сушыльню прывезлі з Ірландыі. Устанаўліваць іх будуць рабочыя з ірландскай грамадскай арганізацыі, якая і аказала гуманітарную дапамогу.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ САЦЫЯЛЬНАЯ ДАПАМОГА

## Новы від дапамогі – адрасная

**МАЛАДЗЕЧНА. 106 гарадскіх сем'яў атрымалі за 1 квартал адрасную дапамогу ад цэнтра сацыяльнай дапамогі сям'і і дзецям.**

Гарадскі цэнтр стаў у свой час піянерам у гэтай справе. Пілотная праграма па адраснай дапамозе дзейнічае з верасня мінулага года. Акрамя Маладзечна, такія пункты былі ў Дзяржынску і адным з раёнаў Мінска. Праграма прыжылася, і з пачатку года адрасную дапамогу аказваюць па ўсёй рэспубліцы.

Сутнасць атрымання сацыяльнай дапамогі: калі сям'я адносіцца да адной з названых ніжэй катэгорый, лічыцца сярэдні даход на чалавека за апошнія 3 месяцы. Калі даход ніжэйшы за 50% пражытачнага мінімуму (на сёння гэта 18998 рублёў), цэнтр выплаціць розніцу. Дапамога да канца квартала, потым зноў трэба афармляць дакументы.

Калі вы атрымліваеце крыху больш за 19 тысяч на чалавека, вы маеце шанц атрымаць разавую дапамогу. Зразумела, у тым выпадку, калі гэта патрэбна.

Але памятайце пра адказнасць за няправільныя звесткі: гэта можа павярнуцца пазбаўленнем права звяртацца па дапамогу на 1 год плюс вы мусіце вярнуць грошы.

Цэнтр сацыяльнай дапамогі знаходзіцца на вуліцы Прытыцкага, 3а. Прыёмныя дні – панядзелак і чацвер.

Правы на атрыманне сацыяльнай дапамогі маюць:

1. Сем'і, якія маюць непрацуючых інвалідаў I і II груп, непаўналетніх дзяцей-інвалідаў;

2. Адзінокія інваліды I і II груп;

3. Адзінокія пенсіянеры;

4. Мнагадзетныя і няпоўныя сем'і, якія выхоўваюць непаўналетніх дзяцей;

5. Сем'і, у якіх абодва бацькі з'яўляюцца беспрацоўнымі або вучацца з адрывам ад вытворчасці ў прафесійна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах;

6. Сем'і, у якіх працаздольны член сям'і даглядае за інвалідам I групы, непаўналетнім інвалідам, састарэлым, старэйшым за 80 год.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Пяцідзесяты сезон актрысы Калашнікавай

**МАЛАДЗЕЧНА. Актрыса лялечнага тэатра "Батлейка" Кацярына Калашнікава сёлета ўступае ў свой пяцідзесяты сезон.**

Большую частку жыцця яна правяла на сцэне Дзяржаўнага тэатра лялек. Ды і нарадзілася якраз у міжнародны дзень тэатра – 27 сакавіка. Сёлета ёй споўнілася 73.

– Хаця па пашпарце я маладзейшая амаль на 2 гады. Падчас вайны, каб мяне не пагналі на работы ў Германію, бацька запісаў, што я нарадзілася 28 снежня 1929 года. Пасля вайны дакументы згубіліся, і ў пашпарце засталася гэтая дата.



Фота з архіва Мінскага абласнога лялечнага тэатра "Батлейка".

**Актрыса Кацярына Калашнікава.**

Родам актрыса з Гомельшчыны. Амаль усё жыццё пражыла ў Мінску, а ў 1990-м прыехала ў Маладзечна. На мінскай кватэры жывуць дзеці.

– Мы з мужам, таксама акцёрам, пасля выхаду на пенсію падпрацоўвалі здымкамі ў кіно. У 1990 годзе ў нашым тэатры праходзіў нейкі фестываль. На ім мы сустрэліся з сябрам, Сяргеем Юркевічам, які арганізоўваў у Маладзечне лялечны тэатр. Нам і кватэру паабяцалі, дзеці ўжо дарослыя былі, мы ім там заміналі. Згадзіліся, заключылі дагавор на 3 гады, якія праляцелі, як адно імгненне.

Потым дырэкцыя тэатра прапанавала падоўжыць дагавор яшчэ на 3 гады. 28 верасня 1994 года раптоўна памірае муж, я засталася адна. "Батлейка" стала маёй другой сям'ёй. Тут я працую да цяперашняга часу. Калі б я адтуль пайшла, я памерла б. Я ўдзячная кіраўніцтву тэатра, што запрашаюць мяне працаваць. Адзіная праблема: мая аднапакаёўка не мае выгод. А я хворы чалавек. У гэтай кватэры няма ваннага пакоя, санвузла, якія мне патрэбныя.

Як памер муж, дарэчы, заслужаны артыст, у гарвыканкоме паабяцалі дапамагчы, калі з'явяцца праблемы. Два гады таму была там на прыёме, мяне выслухалі і сказалі, што гэта цяжкае пытанне. Была ў выканкоме і яшчэ некалькі разоў.

Да гэтага часу актрыса мае добрыя вакальныя дадзеныя, занятая амаль ва ўсім рэпертуары «Батлейкі». Часцяком іграе па дзве, бывала, і тры ролі ў спектаклі. Перашкодзіла атрымаць званне заслужанай артысткі тое, што яна ўзяла прозвішча мужа. Калі іх вылучылі прэтэндэнтамі, нехта з камісіі сказаў, што званне трэба даваць камусьці аднаму. Выбралі мужа.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Вуснае падарожжа па Віліі

**АСТРАВЕЦ. Удзельнікі семінара "Экалагічнае выхаванне насельніцтва" для работнікаў бібліятэк і культурных устаноў зрабілі вуснае падарожжа па Віліі пад назвай "Лінія гнуткая вечнага руху".**

Тэма Віліі ўзнікла невыпадкова. Гэтая рака нясе свае воды па Вілейскай, Маладзечанскай, Смаргонскай і Астравецкай землях. На апошняй яна і развітваецца з Беларуссю. Наступныя 235 кіламетраў Вілія бяжыць па суседняй Літве, дзе носіць назву Нярыс.

Басейн ракі – унікальная па сваім ландшафце, фауне і флоры тэрыторыя. Таму не дзіўна, што некаторыя яго ўчасткі ўвойдуць у меркаваныя заказнікі "Быстрыца" і "Нарачанскія азёры" на Астравеччыне.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

## Пад новай маркай

**МЯДЗЕЛ. Змяніў назву Ілаўскі плодакансервавы завод.**

Цяпер ён пазначаецца ў дакументах як унітарнае прадпрыемства «Ілаўскае». Назву «Ілаўскае» прапанаваў юрыст прадпрыемства **Андрэй Януковіч.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Гарпарк адкрые сезон

**МАЛАДЗЕЧНА. 29 красавіка гарадскі парк культуры і адпачынку адкрывае чарговы, 55-ы сезон.**

– I гэта галоўная ў нас навіна, – усміхаецца дырэктар "малой лясной гаспадаркі" **Ігар Грабоўскі.**

Да адкрыцця сезона ў парку з'явіцца дзіцячая пляцоўка ад лясгаса: драўляная агароджа, пясочніца, шалаш, пара лавак і качалка. Культурную праграму распрацоўвае мастацкі кіраўнік **Таццяна Карпіцкая.**

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Фестываль цымбалаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У адпаведнасці з пастановай Мінкульта РБ, аддзел культуры райвыканкома 5 мая праводзіць на Маладзечаншчыне 1-ы адкрыты раённы фестываль «Гучаць цымбалы на зямлі Купалы».**

Гэтым рэалізуецца адно з мерапрыемстваў да Года дзіцяці. На мэце фестываль мае рэалізацыю мастацкага патэнцыялу таленавітых дзяцей і падлеткаў у розных галінах самадзейнай мастацкай творчасці.

Мяркуецца, што ўдзел возьмуць дзіцячыя і юнацкія калектывы Міншчыны. Зрэшты, арганізатары запрашаюць на фестываль усіх. Жадаючыя могуць аказаць дабрачынную дапамогу.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ІМЯНІНЫ

**20 красавіка**
Праваслаўныя: **Акуліны, Георгія, Данілы.**
Каталіцкія: **Агнешкі, Часлава.**
**21 красавіка**
Праваслаўныя: **Ніфанта, Флягонта.**
Каталіцкія: **Анзельма, Конрада, Фелікса.**
**22 красавіка**
Праваслаўныя: **Вадзіма.**
Каталіцкія: **Лукаша, Лявона.**
**23 красавіка**
Праваслаўныя: **Аляксандра, Зянона, Максіма, Фёдара, Якава.**
Каталіцкія: **Войцеха, Юрыя.**
**24 красавіка**
**25 красавіка**
Праваслаўныя: **Афанасіі, Васіля, Давыда, Зянона, Івана, Ісака, Міны.**
Каталіцкія: **Марка, Яраслава.**
**26 красавіка**
Праваслаўныя: **Артамона.**
Каталіцкія: **Мажэны, Марцэліны, Марыі, Клета.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, красавік**

20 – 22 "**Правілы бою**", ЗША, баявік, прэм'ера 15-00, 17-00, 21-00
"**Шчаслівы пералом**", ЗША, рамант. камедыя 19-00
23 – 29 "**Прыгажун Джо**", ЗША, камедыя, прэм'ера 15-00, 19-00, 21-00
"**Фенікс**", ЗША, баявік 17–00

**Для дзяцей**

22 – "**Сняжок**" 13-00

■ ДНІ



22 красавіка –
**Міжнародны дзень зямлі**
23 красавіка – **115 год з дня нараджэння Змітрака Бядулі** (сапр. С. Плаўнік; 1886–1941), беларускага пісьменніка.
24 красавіка – **Радаўніца.**
**230 год з дня нараджэння С. Ліндэ** (1771–1847), вядомага польскага лексікографа, даследчыка беларускай мовы.
26 красавіка – **Дзень чарнобыльскай трагедыі.**

 



■ МЕРКАВАННЕ

# Рынак у бетонным мяшку

**Заканчэнне.**

5 лютага Вілейскі райвыканкам выдае распараджэнне, якое ўстанаўлівае час заезду на рынак для выгрузкі тавараў з 7-00 да 10-00 гадзін, пагрузкі тавару з 14-00 да 16-00 гадзін.

Адступленні на некалькі хвілін ад указанага часу, асабліва раней за 14-00 гадзін, нягледзячы ні на якія тлумачэнні прычын, штрафуюцца работнікамі ДАІ. Пад'езды да рынку закрытыя дарожнымі знакамі. У зоне дзеяння знакаў, якія забараняюць рух, размешчаныя не толькі рынак, але і аб'екты гандлю, два прамысловыя аб'екты, ветэрынарная аптэка раёна, жыве нямала людзей, якія маюць асабісты транспарт.

22 сакавіка выпіскай з пратакола пасяджэння Вілейскага райвыканкома за подпісам в. а. старшыні выканкома і кіраўніка спраў паведамляецца, што слухалі пра ўнясенне дапаўнення ў рашэнне выканкома ад 12.03.2001 г. №27 і рашылі ўнесці дапаўненні ў рашэнне выканкома ад 12.03.2001 г №27, пункт 7 дапоўніць абзацам наступнага зместу:

"Індывідуальным прадпрымальнікам, незалежна ад здзяйсняемых відаў дзейнасці, пералічыць штомесячна ў сакавіку, красавіку, маі 2001 г. грашовыя сродкі ў памеры адной мінімальнай заработнай платы за сябе і 0,5 мінімальнай заработнай за кожнага, хто працуе па працоўным дагаворы, на развіццё аграпрамысловага комплексу раёна". Грашовыя сродкі пералічваць на разліковы рахунак упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома.

Такім чынам, мясцовая ўлада ў чарговы раз залазіць у кішэню прадпрымальнікаў, нічога не даючы ўзамен.

Самае дзіўнае тое, што пры азнаямленні з пратаколам №6 ад 22.03., выпіскі з якога былі зробленыя па колькасці індывідуальных прадпрымальнікаў, пратакол знаходзіўся ў стадыі толькі праекта, і ў ім ніводным словам не згадвалася пра прадпрымальнікаў, а тым больш, не было тэксту, які аказаўся ў выпісцы. Да праекта пратакола была прыкладзеная выпіска, зробленая на поўным лісце, завізаваная некалькімі службовымі асобамі. Лічу, што не выпіска была з пратакола, а пратакол рыхтаваўся на падставе выпіскі.

Дырэктар рынку "Садружнасці" Т. Корсак дала ўказанне кантралёрам рынку пад распіску ўручаць выпіскі прадпрымальнікам.

Калі ж абсалютная большасць прадпрымальнікаў адмаўляліся нават распісвацца на выпісках, на іх склалі так званыя чорныя спісы. Іх перадалі чыноўніку райвыканкома, а потым – да начальніка падатковай інспекцыі раёна.

**МЯРКУЮ**, што Вілейскай міжрайпракуратуры трэба было б разабрацца, на якой падставе "Садружнасцю" бралася арэндная плата з прадпрымальнікаў у поўным аб'ёме ў той час, калі прадпрымальнікі працавалі па калена ў гразі, на вуліцы Савецкай, і ці не належаць незаконна атрыманыя грошы пералічэнню ў бюджэт раёна?

На якой падставе "Садружнасць" бярэ арэндную плату з суб'ектаў гаспадарання, што гандлююць на скрыжаванні вуліц Першамайскай і Савецкай і ці не належаць пералічэнню ў бюджэт раёна ўказаныя грошы?

На якой падставе "Садружнасць" арганізавала пастаянны гандаль на вуліцы Савецкай? Рашэннем жа выканкома там дазволены толькі выязны гандаль?

Ці законна ўстаноўленыя дарожныя знакі 3.2, якія забараняюць рух на далёкіх подступах да рынку і ці не належыць адмене ўказанае рашэнне, таксама распараджэнне райвыканкома №36р строгім рэгуляванні ўезду і выезду з рынку?

Ці законна бярэцца арэндная плата за месца ў тым памеры, у якім яна бярэцца?

Ці законнае дапаўненне ад 22.03.2001 г. да рашэння выканкома ад 12.03.2001 г. №27, якое абавязвае індывідуальных прадпрымальнікаў пералічваць грошы на рахунак упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома і ці не належыць яно апратэставанню з мэтай адмены?

Як ва ўсіх былых саюзных рэспубліках рухнуў артыкул, які прадугледжваў крымінальную адказнасць за прыватнапрадпрымальніцкую дзейнасць і камерцыйнае пасрэдніцтва, так рухнулі і калгасы. Кіраўнікі Вілейшчыны, як і большасць разважных людзей, разумеюць, што і ў мясцовых калгасаў няма будучага. Вось толькі спрабуюць прадпрымальніцкімі грашыма рабіць "мёртваму прыпаркі".

А патрэбна прадпрымальнікам, у першую чаргу, зніжэнне падатковага прэсінгу. Як і ўсім жыхарам Вілейкі, паўнацэнны рынак, якія ёсць у нашых суседзяў па раёне. Бо гарадскі рынак з'яўляецца не толькі месцам збыту і набыцця разнастайных тавараў і рэчаў, але і галоўным месцам зносінаў людзей, чаго ў апошні час стала вельмі мала.

**ПРАФСАЮЗ** прадпрымальнікаў звяртаецца да кіраўнікоў Вілейскага раёна прыняць рашэнне аб будаўніцтве паўнацэннага рынку на базе таго, што ўжо рэальна існуе, хаця і незаконна. З усімі яго інфраструктурамі, выкарыстоўваючы не толькі бюджэтныя сродкі раёна, міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый, але і грашовыя сродкі ад арэнднай платы за рабочыя месцы на рынку і прылеглай тэрыторыі. Сродкі ў памеры да трох мільёнаў штомесяц, якія атрымлівае "Садружнасць", выкарыстоўваюцца не для развіцця рынку, а для ўмацавання сваёй вытворчасці.

У акце аб выбары зямельнага ўчастка для будаўніцтва рынку ад 10 сакавіка 2000 года, падпісанага кампетэнтнымі асобамі раёна, у тым ліку, і галоўным санітарным урачом **М. Міхалевічам**, рашэнні райвыканкома гаворыцца: дазволіць Вілейскаму гарадскому гандлёва-вытворчаму прадпрыемству "Садружнасць" правядзенне праектна-вышукальных работ на зямельным участку "Садружнасці" і г. Вілейка для размяшчэння міні-рынку. Адвод зямельнага ўчастка зрабіць пасля распрацоўкі і зацвярджэння праекта. У гэтым жа акце прадпісваецца "Садружнасці" рэканструяваць грамадскую прыбіральню і забяспечыць рынак водаправоднай вадой. Ніводнае з прадпісанняў не выканана, а праект нават не заказаны, хаця ўжо прайшло больш за год.

У гэтай сувязі ў Вілейскага райвыканкома ёсць усе падставы перадаць існуючы рынак ў вядзенне і распараджэнне Вілейскага ГВА ЖКГ, а ў далейшым выдзеліць паўнацэнны рынак у асобную гарадскую структуру і самастойны суб'ект гаспадарання.

Прафсаюз, члены якога, у асноўным, і выкарыстоўваюць рынак, уносіць прапанову выдзеліць зямельны ўчастак, на якім знаходзіцца аварыйны будынак былога дзіцячага садка-ясляў. Ён мяжуе з рынкам, таму можа быць выкарыстаны для гандлю. Можна зрабіць адчужэнне зямельнага ўчастка, які таксама мяжуе з рынкам, на рагу вуліц Савецкай і Першамайскай.

З мэтай захавання ад гібелі ўчастка паркавай зоны, які вытоптваецца пакупнікамі, пасля рэканструкцыі рынку ўезд на яго зрабіць з боку вуліцы Першамайскай. У гэтым выпадку адпадзе неабходнасць закрываць рух аўтатранспарту дарожнымі знакамі Уезд і Праезд забаронены.

Прафсаюз прадпрымальнікаў просіць службовых асоб раёна, ад якіх залежыць будаўніцтва паўнацэннага рынку і далейшае развіццё прадпрымальніцтва, выступіць у друку. Ці будзе пабудаваны такі неабходны віляйчанам паўнацэнны рынак? Калі гэта адбудзецца? Што робіцца для паляпшэння работы прадпрымальнікаў?

**Мікалай МЕЛЕЦ,**
**старшыня вілейскай прафсаюзнай арганізацыі прадпрымальнікаў.**



Фота IREX/ProMedia.

**У чаканні таты. Вілейскі рынак да пераезду ў парк.**

## Праблемы гарадскога рынку павінны абмяркоўвацца

Друкуючы матэрыял Мікалая Мелеца, мы разумелі, што пасля яго публікацыі магчымая рэакцыя і чытачоў, і чыноўнікаў. Нашыя чаканні спраўдзіліся нават раней, чым ліст Мікалая Мелеца быў поўнасцю апублікаваны – ужо пасля публікацыі першай яго часткі.

Першае, што хочацца сказаць і ў адрас аўтара, – мы сапраўды стрымліваем свае абяцанні, нават кароцячы тэксты. Газета, на жаль, мае абмежаваны аб'ём. Але упэўненыя, што пасля скарачэння пафас выступлення не змяніўся. Доказам захавання пафасу аўтара, мяркую, ёсць рэакцыя службовых асоб. У тым ліку кіраўніцтва "Садружнасці". Дырэктар Леанід Нарэйка выказвае сваю абуранасць "галиматьей", змешчанай на старонках нашага выдання. Мы ж лічым, што любое меркаванне можа быць дастойным для апублікавання. З таго і зыходзім. І радыя будзем, калі на старонках газеты знойдуць месца розныя пункты гледжання на адну праблему. Нават дыяметральна супрацьлеглыя. Чытача цікавіць і меркаванне суседа, і меркаванне "вертыкальшчыка". Толькі шляхам абмеркавання можна вырашаць складаныя задачы. Калі ж Леанід Фёдаравіч Нарэйка не хоча падзяліцца з чытачамі газеты сваім бачаннем праблемы, аб чым ён сказаў аўтару гэтых радкоў, становіцца проста шкада – немалая аўдыторыя будзе пазбаўленая магчымасці пачуць, што думаюць пра праблемы віляйчан службовыя асобы.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ,**
**галоўны рэдактар "Рэнгіянальнай газеты".**

## Курсы валют НБ РБ

| | 12 красавіка | 19 красавіка |
|---|---|---|
| Долар | 1313,00 руб. | 1320,00 руб. |
| Нямецкая марка | 597,11 руб. | 594,69 руб. |
| Літ | 328,33 руб. | 330,08 руб. |
| Расійскі рубель | 45,48 руб. | 45,71 руб. |
| Злоты | 324,80 руб. | 326,61 руб. |
| ЕЎРА | 1167,85 руб. | 1163,12 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1330 – 1340 руб. | 1345 – 1360 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 11.04 | 18.04 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1980 | 1980 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6500 | 6500 |
| Сасіскі, 1 кг | 2100 | 1880 |
| Селядзец, 1 кг | 1430 | 1520 |
| Рыс, 1 кг | 500 | 490 |
| Грэчка, 1 кг | 480 | 450 |
| Цукар, 1 кг | 568 | 568 |
| Алей, 1 л | 700 | 690 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 750 | 750 |
| Маянэз, 200 г | 230 | 260 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 450 | 450 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 380 | 380 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 200 | 220 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 300 |
| Лімоны, 1 кг | 1250 | 1350 |
| Апельсіны, 1 кг | 1150 | 1150 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 900 | 1000 |
| Масла, 1 кг | 1800 | 2000 |
| Тварог, 1 кг | 1000 | 900 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | 900 |
| Бульба, вялікае вядро | 800 | 600 |
| Морква, 1 кг | 400 | 400 |
| Яблыкі, 1 кг | 500 | 480 |

## Падаражэлі гандлёвыя месцы

**МЯДЗЕЛ. Амаль у два разы паднялася плата за месца на Мядзельскім харчовым рынку.**

Каштуе яно ад 700 рублёў (прыкладам, для гандляроў семкамі) да 1200 за дзень. А паколькі месцы маленькія, то для добрага гандлю трэба браць некалькі.

Праўда, пенсіянеры, што гандлююць на рынку, пачалі скардзіцца, і старым зрабілі скідку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Першы экспартны мільён

**СМАРГОНЬ. Больш за мільён доляраў атрымалі прадпрыемствы раёна за экспарт сваёй прадукцыі.**

Асноўным экспарцёрам стаў завод аптычнага абсталявання. Сёлета ён асвоіў выпуск некалькіх відаў станкоў і аўтаматаў. Іх чакаюць у Італіі і іншых краінах.

Летась смаргонскія прадпрыемствы экспартавалі прадукцыі на 7,8 мільёна долараў. Тавары пайшлі ў 10 краін. Дзве трэція з іх, праўда, у Расію. Станоўчае сальда (перавага экспарту над імпартам) летась склала 2,1 мільёна долараў.

**Павел МАКЛЮК.**

## Райцэнтр ізноў з «Пеўнікам»

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры пасля перапынку адкрыўся магазін «Пеўнік» Выгалавіцкай птушкафабрыкі.**

Да таго мядзельцы больш за год жылі без фірменнага магазіна сваёй птушкафабрыкі (ранейшыя ўладальнікі плошчаў адмовілі ў арэндзе і давялося шукаць новае месца).

Пэўна, гараджане за гэты час засумавалі без курынай прадукцыі, бо пакупнікоў было багата. Першым пяці наведвальнікам уручылі пакеты з прадукцыяй птушкафабрыкі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ЗАКАНАДАЎСТВА

## Сертыфікацыя цырульняў

**МІНСК. З 1 ліпеня цырульныя паслугі будуць падлягаць абавязковай сертыфікацыі.**

Цырульням, салонам прычосак і цырульням-люкс прыйдзецца пацвярджаць сертыфікатамі адпаведнасць аказваемых імі паслуг патрабаванням. Пра гэта паведаміла начальнік упраўлення сертыфікацыі Дзяржстандарта **Неаліна Прохарчык**.

У далейшым пашырэнне пераліку паслуг, якія патрабуюць абавязковай сертыфікацыі, плануецца ажыццявіць за кошт турыстычных і гасцінічных, а таксама паслуг транспарту і сувязі.

**Па матэрыялах БелаПАН.**



# Паварушы мазгамі, №51

Прывітанне!

Пачну з ліста ў мой адрас. "Хрыстос уваскрос, шаноўны спадар Якім! Шчыра віншую цябе і калектыў рэдакцыі з найвялікшым хрысціянскім святам і жадаю самага лепшага ў жыцці. Таксама віншую і з юбілеем – пяцідзесятым нумарам "Паварушы мазгамі". Але нешта з табою здарылася, мабыць вясна на цябе дрэнна падзейнічала, што другое запар заданне друкуецца з памылкамі. Але ж памылкі можна выправіць і знайсці рашэнне. А яно такое:

$$\begin{array}{ccccc} 942 & - & 188 & = & 754 \\ : & & - & & - \\ 3 & \times & 126 & = & 378 \\ \hline 314 & + & 62 & = & 376 \end{array}$$

*З павагай, Мікола Ліннік, Радашковічы.*"

Дзякуй, дружа Мікола. Не хацелася б апраўдвацца, але на незаплямлены імідж мой уласны і маёй кампаніі другі раз запар сядае цёмная, аж да фіялетавага адцення пляміна. Але тут сапраўды не мая віна. Тэхнічныя работнікі, адказныя за памылкі, панеслі пакаранне ад галоўнага рэдактара (суровы мужык!). Ну і мне, вядома, перапала. За страчаны кантроль.

Ты не менш, узнаваўшы ўмовы, правільныя адказы далі, акрамя **Міколы Ліннніка**, **Павел Суман** – пераможца з мінулага тура, **Дзмітры Пакладок, Дзяніс Гуцко, Андрэй Каўзовіч, Юры Юхневіч, Юры Жданаў, Іван Жамойдзін, Сяргей Смалонскі, Віталь Бядрыцкі.**

## 1973

Цяпер задачка з аднаго з часопісаў за ўжо далёкі 1973 год. Прадстаўце лік 1973 паслядоўнасцю лічбаў ад 1 да 9 і ад 9 да 1. Тлумачэнне. Напрыклад, лік 1973 можа быць прадстаўлены паслядоўнасцю лічбаў ад 1 да 7 наступным чынам. 1973=12х34х5–67. Нейкім чынам можна разбіць знакамі матэматычных дзеянняў і рад 123456789 так, каб атрымалася 1973.

Прыз дастанецца таму, хто дасць найбольшую колькасць варыянтаў адказаў. Калі такіх кемлівых будзе некалькі, то прыз будзе сярод іх разыграны.

**Напішы адказы на паштоўцы** і дашлі на адрас рэдакцыі. Падпішыся на паштоўцы. **Адказы прымаюцца да серады.** Сярод тых, хто знойдзе правільнае рашэнне, будзе разыграны прыз. Шчаслівчыку ўручым таксама дыплом. Не сярдуй, калі правільна адказаш на заданне, а не знойдзеш прозвішча сярод прэтэндэнтаў на прыз. Проста ты даслаў рашэнне не на паштоўцы.

Дарэчы, можа, хтосьці прапануе рашэнне аналагічнай задачы для ліку 2001?

Буду ўдзячны за дасланы варыянт.

Стоп, а чаму я маўчу наконт шчасліўца? Ёсць такі. Ім другі раз запар становіцца сямікласнік сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў з Маладзечна **Павел Суман**. Віншую! Павел, шыбуй у рэдакцыю за чарговымі ганаровым дыпломам і прызам!



**Якім ПЯРЭЧКА.**

### Дошка гонару



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Вучань сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў з Маладзечна Павел Суман другі раз запар стаў пераможцам нашага конкурсу.**

■ **КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА**

## Здароўе і жыццё супраць 100 грамаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхар раёна пасля работы завітаў да сябра, у якога быў дзень нараджэння.**

Пасля немалой выпіўкі наш "герой" вырашыў ісці на чыгуначны вакзал, каб ехаць дадому. Калі ён пераходзіў чыгуначныя пуці, то паваліўся, а падняцца ўжо не змог. Пры гэтым пакінуў левую нагу на рэйцы.

Машыніст цеплавоза ўбачыў чалавека, які ляжаў на чыгуначным пуці, прымяніў экстраннае тармажэнне, падаў гукавы сігнал, аднак наезду пазбегнуць не ўдалося. Так пацярпелы ў росквіце сіл стаў інвалідам I групы.

Сёлета на ўчастку абслугоўвання Маладзечанскага АУСТ зарэгістравана 9 няшчасных выпадкаў на аб'ектах чыгуначнага транспарту, тры з якіх скончыліся смяротна. За хаджэнне па пуцях у неўстаноўленых месцах прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці 369 чалавек.

**Юрый КРАЎЧАНКА, старшы інспектар Маладзечанскага АУСТ.**

## Дзіцячы суіцыд на Валожыншчыне

**ВАЛОЖЫН. У Вербную нядзелю павесіўся трэцякласнік Ракаўскай СШ.**

Гэта першы падобны выпадак у раёне ад пачатку года.

Сям'я ў хлопца была з разраду нядобранадзейных. Засталося чацвёра дзяцей, бацька нідзе не працуе, п'е. Дзеці часцяком збягалі з дома, траплялі ў Мінскі спецпрыёмнік.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Гараскоп 23 – 29 красавіка



**Авен** (21.03–20.04)

Перыяд умацавання ўзаемных стасункаў і магчымасць крыху зарабіць. Вам таксама неабходна выпрацаваць пэўную стратэгію паводзінаў са сваім сексуальным партнёрам, таму што ён адчувае прыступы адзіноты.



**Цялец** (21.04–21.05)

Менавіта з гэтага дня ўся вашая ўвага павінна быць засяроджаная на фінансах: вельмі хутка і лёгка адбудуцца здзелкі. А жанчыны-Цяльцы, да таго ж, атрымаюць шмат кампліментаў, зусім не звязаных з днямі нараджэння.



**Блізняты** (22.05–21.06)

Наладжвайце стасункі, дамаўляйцеся і... ўгаворвайце. Усе будзе на вашым баку і лёгка паддадуцца на любыя "правакацыі". Паспрабуйце пабыць у адзіноце, займіцеся сабой і дамашняй гаспадаркай. Складаны дзень 26-га красавіка не акажа негатыўнага ўплыву, калі вы адмовіцеся ад любой спакусы.



**Рак** (22.06–23.07)

Перыяд ураўнаважвання службовых стасункаў. Многім людзям захочацца вам дапамагчы і падтрымаць вас фінансамі. Пасля 24-га красавіка лягчэй і прасцей будзе з аднадумцамі, а на 26-га заплануйце самыя сур'ёзныя перагаворы, здзелкі або... любоўныя растлумачэнні.



**Леў** (24.07–23.08)

Перад вамі адкрыюцца новыя магчымасці сацыяльнага росту. Але да ўсяго, што адбудзецца ў гэты дзень, пастаўцеся надзвычай уважліва і ні ў якім выпадку не спяшайцеся неадкладна рэагаваць на падзеі. Узважвайце кожныя крок і слова. А вось 26-га красавіка ўсе дакладна сфармуляваныя думкі і рэальныя жаданні могуць цудоўна замацавацца ў Космасе!



**Дзева** (24.08–23.09)

Некаторыя матэрыяльныя цяжкасці і перашкоды на шляху прафесійнага росту. Калі вы з'яўляецеся гаспадаром фірмы, магчымы візіт падатковых органаў; калі вы – чыноўнік, то можаце атрымаць "галавамыйку" ад начальства. Наогул, у гэты перыяд многае будзе адбывацца не па вашай волі.



**Шалі** (24.09–23.10)

Пачнецца гарманізацыя стасункаў, многія з якіх будуць рэфармаваныя і выйдуць на новы віток развіцця. Добры перыяд для тых, хто заняты творчасцю. Ад вашых паводзінаў 26-га красавіка будзе залежаць многае ў блізкім будучым. Калі вы не праявіце дастатковай актыўнасці, Фартуна можа і адвярнуцца.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Увесь перыяд Скарпіёны будуць занятыя каханнем і сабой. Патрабаваць ад вас у гэты перыяд зрухаў у рабоце, новых ідэй, адпраўляць вас у камандзіроўкі ці праводзіць перамовы няма сэнсу. Так і перадайце вашым партнёрам. Затое сямейныя, сяброўскія адносіны расцвітуць пышна і прыгожа.



**Стралец** (23.11–21.12)

Яшчэ раз варта нагадаць, што аздараўленне і лячэнне – паняцці супрацьлеглыя. Да пачатку мая, калі ў вас значна дадасца клопатаў і работы, займіцеся, нарэшце, сваім арганізмам: вадзіце яго на прагулкі, на заняткі спортам, не нагружайце спіртным...



**Казярог** (22.12–20.01)

Некалькі ўскладняцца партнёрскія і асабістыя стасункі. Магчыма, некаторыя знаёмствы трэба і зусім спыніць. Вы лягчэй і хутчэй будзеце працаваць індывідуальна, чым у групе. Таму творчыя Казярогі могуць мець поспехі ў гэты перыяд. Зрабіце 26-га красавіка днём поўнай рэвізіі планаў і ўзаемаадносінаў. Будзьце настойлівыя ў рэалізацыі.



**Вадалей** (21.01–19.02)

Нарэшце надышоў час заняцца абуладкаваннем сямейнага ачага. Гэта пачнецца раптам і паглыне вас цалкам. Вы будзеце зусім абыякавыя да ўсяго, што робіцца за сценамі вашай крэпасці. Магчыма, такі гаспадарчы імпэт абумоўлены некаторымі пераменамі ў асабістым жыцці.



**Рыбы** (20.02–20.03)

Вашай сям'і захочацца загрузіць вас цалкам. Асабліва цікавая сітуацыя чакае тыя саюзы, дзе пражываюць дзве Рыбы на адной тэрыторыі. Калі гэта не скончыцца бойкай ці пабегам з дому, то вас можна назваць дыпламатамі вышэйшай пробы! 26-га вам будзе нялёгка вызначыцца з інфармацыяй – магчымыя падманы.

■ **ФРАЗЫ**

- Каб капусту не пагрызлі зайцы, раім яе вырошчваць на адкрытай мясцовасці, якая добра прастрэльваецца.
- Калі ваш участак ці дача размешчаныя ў нізіне і іх раптам затапіла, паспрабуйце вырасціць там хаця б крыху рыбы.
- Дабро заўсёды перамагае зло. Значыць, хто перамог, той і добры.
- Агульнавядома, што чалавек ці не вечна можа глядзець на тры рэчы: як гарыць агонь, як цячэ вада, як працуе іншы чалавек. Зыходзячы з гэтага, ідэальны варыянт для назірання – пажар.



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж 8680 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 63369 (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
№16 (313) 20.04.2001. Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 19.04.2001

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя «РГ»